Перасылка аплачана рычалтам.

Цана асобнага нумару **20** гр.

№ 3. Вільня, Субота 6 Ліпня 1929 г. Год 1.

# СЬВЕТ



Адрас Рэдакцыі і Адміністрацыі
Вільня, Вялікая вул. № 3 кват 10. (над цынкаграфіяй Занеўскага).

„СЬВЕТ" каштуе на год — 8 зал., на паўгоду — 4 зал.; на чверць году — 2 зал., на 1 месяц — 1 зл.

ЦАНА АБВЕСТАК: на 1-шай старонцы 30 гр., 2 і 3—25 гр., на 4-ай — 20 гр. за радок дробнага друку ў аднэй палосцы.

ТЫДНЁВАЯ ГАЗЭТА.

## З прычыны міжнароднага дня Каапэрацыі.

На сягоньня, 6-га ліпня, выпадае Міжнародны Дзень Каапэрацыі. Усе Каапэратыўныя арганізацыі рыхтуюцца да абходу гэтага дня.

Каапэратары-рэфармісты, або, як яны сябе любяць называць «фаховыя каапэратары», хочуць зрабіць з гэтага дня выключна каапэрацыйнае сьвята, не зьвязваючы яго з барацьбой работніцкіх і сялянскіх мас за ўсе іншыя патрэбы і правы, за іх поўнае вызваленьне. Гэтыя «павадыры» каапэрацыйнага руху ў капіталістычных дзяржавах у кабінэтах патрапілі вытварыць пэўны пагляд на каапэрацыю, і зрабіць з яе пэўнага роду самамэту. Каапэрацыя, па іх думцы, вядзе сама ў сабе ўжо да паступовага, спакойнага захопу ўсяго гаспадарчага жыцьця, а разам з тым, ясна, і палітычнага, у рукі кансумэнтаў-спажыўцоў. Каапэрацыя і толькі каапэрацыя, па іх думцы, можа зьменшыць вызыск капіталістаў, палепшыць умовы жыцьця працоўных гушчаў і давясьці іх стан да „цьвітучага дабрабыту». Думку гэтую з усей станоўчасьцю паддзержваюць усе ўгадовыя палітычныя ўгрупаваньні ўва ўсіх краёх, у Польшы з ППС правіцай на чале.

Лічучы каапэрацыю за нейкі самавыстарчальны чыньнік у перабудаваньні грамадзкага ладу, угадовыя кіраўнікі каапэрацыі, якія сталіся запраўды бюрократамі ў каапэрацыйным руху, у гэтым годзе да Міжнароднага Дня Каапэрацыі зрабілі даволі шырокую падгатоўчую акцыю: у прэсе, на сваіх сходах, у адозвах і г. д.

У той час, калі гаспадарчы крызыс, незабясьпечанасьць мас, піхаюць іх на шлях барацьбы, названыя вышэй паны стараюцца запраўды заперці вострасьць барацьбы, скіроўваючы яе на рэльсы спакойнай каапэратыўнай працы, дзе-б ня было клясавых супярэчнасьцяў, а ёсьць толькі «панадклясавы» кансумэнт-спажывец. Падобным чынам яны ствараюць ілюзіі ў масах што ёсьць ратунак ад усіх бедаў шырокіх і незабясьпечаных пластоў гораду і вёскі іменна і толькі ў каапэрацыі.

Ад залажэньня першых каапэратываў маем век часу. Праўда каапэратыўны рух разьвіваўся, аднак не настолькі, каб паважна нават канкураваць з капіталістычнымі прадпрыемствамі, хоць можна было-б чакаць, па думцы каапэратараў-рэфармістаў, што яна ўжо стаяла-б на шляху да пабіцьця прыватнай гаспадаркі. Паны «фахоўцы» забылі, а хутчэй сьвядома маўчаць аб тым, што капіталісты, калі-б ім так паважна пагражала каапэрацыя, кінуліся-б у першую чаргу на барацьбу з ёю, а працоўныя масы баранілі-б яе ўсёю сілаю, тым балей, што пытаньне гаспадарчае належыць да самых балючых іх спраў. Каапэрацыя зрабілася-б, восью, каля якое адбывалася-б уся вострая барацьба, якая цяпер вядзецца паміж капіталістамі і працоўнымі масамі. Аказваецца, што каапэрацыя ня можа канкураваць з магутнымі трэстамі і „каралямі" паасобных прадпрыемстваў. Каапэрацыя, якую прыпадносяць паны «фахоўцы» ім ня страшна, можам без ваганьня сказаць, што *у капіталістычных краінах роля каапэрацыі спажыўцоў, як у галіне распадзелу, так і ў галіне вытворчасьці, ня толькі што скромная, а проста нявідная.*

Вельмі цікава таксама сьвядомае заціраньне клясавага мамэнту каапэрацыі ўспомненымі «фахоўцамі». З аднаго боку, яны нібы імкнуцца да перабудовы грамадзкага ладу, з другога боку, яны хочуць пэўна-ж у інтарэсах працоўных рабіць гэта таксама рукамі капіталістаў, бо для іх спажывец — просты чалавек, які хоча агульнага дабра. У грамадзкім жыцьці справа стаіць зусім інакш, як прадстаўляюць нам паны «фахоўцы».

Клясавая барацьба, барацьба работнікаў і сялян за свае вызваленьне, адбываецца на кожным полі. Ня можа быць нейкай надклясавай пляцоўкі, у якой справе вызваленьня сялян і работнікаў могуць памагаць паны капіталісты. *Справа вызваленьня сялян і работнікаў, справа перабудовы грамадзкага ладу—ёсьць толькі справа самых сялян і работнікаў.* Усякія-ж ідыліі «агульных» інтарэсаў ёсьць у сапраўднасьці чыста буржуазная тэза. Адсюль вывад, што сучасныя кіраўнікі каапэратыўнага руху служаць інтарэсам буржуазіі і *каапэрацыю замест таго, каб зрабіць запраўднай прыладай барацьбы сялян і работнікаў за сваё вызваленьне, яны робяць з яе запраўды прыладу для барацьбы з гэтымі масамі, адцягваючы іх ад успомненай барацьбы.*

Пры капіталістычным ладзе, нават, клясавая сялянска-работніцкая каапэрацыя найбольш можа даць, калі да таго добра разьвіта — крэдыты ў часе вострых мамэнтаў барацьбы, арганізаваць сталоўку для безработных; у спакайнейшы час можа арганізаваць хату—чытальню, можа выдаваць кніжкі для ўсьведамленьня, можа адным словам, вясьці культурна-асьветную працу. Пры вострых канфліктах каапэрацыя не становіцца цэнтрам увагі, а стаіць ў баку, нават, калі і ня так разумець каапэрацыю як разумеюць яе паны рэфармісты, дык і тады яна не прывядзе да перамогі работнікаў і сялян. *Яна можа быць толькі пэўным дапаможнікам пры агульнай барацьбе працоўных за сваё вызваленьне.* Але каб і гэтым яна была, трэба змагацца за яе сялянска-работніцкі характар.

Трэба, аднак, заўсёды помніць, што вызваленьне сялян і работнікаў дасьць барацьба за іх штодзенныя інтарэсы, і то ня толькі на каапэратыўным полі, але ўсюды, дзе выклікаецца патрэба, барацьбу, аднак, за сялянска-работніцкі характар каапэрацыі мы ня можам адлучыць ад гэтае штодзеннае барацьбы.

## БЕЗРАБОЦЬЦЕ.

Істнаваньне на зямной кулі каля 15 мільёнаў безработных, каля 15-ці мільённай масы людзей, якія працэсам эканамічнага разьвіцьця выкінуты на брук, на волю лёсу, істнаваньне гэтай магутнай „рэзэрвнай арміі", што з кожным днём усё павялічваецца — ня можа не зацікавіць сабой сялянска-работніцкіх масаў, перад якімі штодня стаіць пагроза быць выкінутымі, страціць засабы істнаваньня. Ня можа ня цікавіцца гэтым пытаньнем і беларускі селянін і работнік. Перапоўненьне гораду і вёскі арміяй безработных прымушае яго задумацца над гэтым, прымушае задумацца таму, што ня сёньня—заўтра і ён апыніцца ў радох „рэзэрвнай арміі".

Аб палажэньні безработнага ня прыходзіцца шмат гутарыць. Для кожнага яно відавочна. Працоўная сіла, калі яна яшчэ ня страчана і якой няма дзе ўжыць, брак, а часам і поўная адсутнасьць ежы, холад, адсутнасьць жыльля, поўная незабясьпечанасьць перад заўтрашнім днём — вось што мае ў сваім распараджэньні безработны. Палажэньне яго часам даходзіць да таго, што перад ім выразна становіцца пытаньне: або ўмерці з холаду і голаду, або пайсьці на фабрыку і ўзяцца там працаваць за танейшую цану ад тае, якую атрымліваюць працуючыя там работнікі. Гэтак часта і здараецца. Несьвядомы безработны становіцца паважным канкурэнтам работнікаў, які ідзе на найстрашнейшую эксплёатацыю, стараючыся якім-бы то ні было спосабам пражыць і пракарміць сваю сям'ю. Несьвядомыя безработныя, заместа таго, каб стаць да супольнай барацьбы за лепшы лад з работнікамі, становяцца, такім чынам, паважным тормазам у гэтай барацьбе.

Для працоўных — ня цікавіцца безрабоцьцем, яго разьвіцьцём, ростам, гісторыяй — азначала-б ня цікавіцца сваім палажэньнем, сваёй барацьбой за лепшы быт.

Што-ж такое безрабоцьце, дзе яго прычыны, які шлях разьвіцьця і аканчальны лёс?

Гляньма на разьвіцьцё капіталізму. Адразу нам кінецца ў вочы адна з характэрных яго рысаў — гэта анархія вытворчасьці, бясплянов асьць гаспадарчага і агульнага разьвіцьця. У разьвіцьці прадукцыі няма ніякага пляну. Кожны фабрыкант стараецца пабіць другога фабрыканта, свайго суседа, пры помачы канкурэнцыі. А дзеля гэтай мэты усе яны імкнуцца, як найбольш вытвараць, каб мець больш заработак.

Ніхто з іх ня ведае наперад, ці ўдасца яму прадаць свой тавар, ці ня ўдасца, аднак кожын на нешта спадзяецца. І атрымліваецца такая рэч. Пэўны капіталіст вырабіў шмат тавараў і ідзе шукаць (ясна ня сам) рынкаў збыту.

Рынкаў збыту не знаходзіць, бо тавараў гэтых поўна.

Яго „пабілі" суседзі.

Што ён прымушаны рабіць? Ясна, што ліквідуе, або спыняе (лёкаўт) сваю фабрыку. Атрымліваецца, т. зв. крах. Сотні і тысячы работнікаў выкідаюцца на брук, становяцца „рэзэрвнай арміяй". Сотні і тысячы не знаходзяць працы, галадуюць, а ў магазынах фабрыкантаў гніюць тавары, бо для іх няма рынку збыту. Аднак пойдзем далей. Удасканаленьне тэхнікі, далейшае разьвіцьцё капіталізму павяло за сабой тое, што машыны масава пачалі выпіхаць з фабрыкі людзкія рукі, машыны, заместа таго, каб даць шчасьце людзкасьці, сталіся пракляцьцем для рабочых. Гэта т. зв.—рацыяналізацыя працы.

Машына, дзякуючы неарганізованасьці вытворчасьці, дзякуючы поўнай процілежнасьці паміж спосабам вытворчасьці і спосабам прысваеньня ў капіталістычным грамадзянстве — ня можа палепшыць быту працоўных.

Працэс эканамічнага разьвіцьця можа толькі прыблізіць той час, калі машына станецца запраўдным шчасьцем для людзкасьці.

І ніякія арганізацыі капіталу, ні сындыкаты, ні трэсты, ні картэлі ня змогуць зьнішчыць безрабоцьця, — наадварот яны яго паглыбляюць, дзеля таго, што, калі зьнікае барацьба паміж паасобнымі фабрыкантамі, то толькі для таго, каб узмоцніць гэтую барацьбу паміж магутнымі аб'яднаньнямі, паміж трэстамі, а ўрэшце—паміж дзяржа-

вамі. Крызісы будуць стала праз пэўны час паўтарацца.

Калі глянем на паваенны капіталізм, на капіталізм з найбольш разьвітай індустрыяй, якому ўласьціва успомненая капіталістычная рацыяналізацыя працы, дык убачым, што, чым больш гэтая рацыяналізацыя праводзіцца ў жыцьцё, тым шпарчэй павялічваецца армія безработных.

Рацыяналізацыя, заместа таго, каб даць палёгку для работнікаў, узвальвае на плечы аднаго працуючага тое, што раней выконвалі двох, трох і болей.

Рацыяналізацыя працы ўцягвае на фабрыку жанчын, калек і дзяцей, якія выпіхаюць сабою мільёны рабочых на холад, на голад. Так, у аднэй Нямеччыне маем у сучасны мамэнт 1.800.000 безработных, між тым, як дзеці і кабеты працуюць за мінімальную заработную плату. У Англіі каля 2.000.000; у Польшчы каля 115.000; тое самае і ў іншых капіталістычных краёх.

Усё гэта, у значнай меры, вынік рацыяналізацыі працы. Наша беларуская вёска і места таксама перапоўнены арміяй безработных.

Адсюль кожнаму зразумела, што безрабоцьце зьяўляецца, як кажуць вялікія тэорэтыкі сацыялізму, хранічнай хваробай капіталістычнага грамадзтва, што барацьба з безрабоцьцем бэзсэнсоўная, калі не вясьці барацьбы з яго прычынамі.

Тут мы падыходзім да ролі угоды, якая для зацямненьня справы, як у кожным выпадку, так і тут, „змагаецца“ з безрабоцьцем, падтрымліваючы адначасна агульную сыстэму капіталізму, ломячы пры кожнай магчымасьці забастоўкі работнікаў, якія змагаюцца за палепшаньне свайго быту. Прыкладаў сотні. Сьвядомыя сяляне і работнікі зьяўляюцца сьведкамі гэтага атуманеньня масаў, гэтай шчырай барацьбы з работніцкім рухам ўсяго II-га Інтэрнацыяналу. ППС, Вызваленьне, Бунд, як і беларускія ўгадоўцы — пацьвярджаюць гэта ў нас.

Для характэрыстыкі „барацьбы“ з безрабоцьцем нашай угоды, возьмем некалькі слоў з пэпэасаўскага „Работніка“, які, пішучы аб трагічным палажэньні лодзкіх безработных, зазначае: „Кліч Лодзі ня можа астацца бяз рэха. Урад мусіць знайсьці засабы, каб прыйсьці з дапамогаю Лодзі. А помач гэта мусіць быць хуткая і карысная“. Запраўды, шмат чаго можна прачытаць у пададзенай цытаце для агульнай характарыстыкі ўгоды.

А вось, напр., як дакляруе вясьці барацьбу з безрабоцьцем, дайшоўшы нядаўна да ўлады правадыр „Лябур Парты“ Макдональд, таксама з II-га Інтэрнацыяналу. „Работнік“ піша так:

„Новы ўрад (ангельскі — рэд.) ня будзе пачынаць спробаў глыбейшай, запраўднай перабудовы гаспадарчага арганізму і грамадзкага ладу. Увесь высілак яго будзе скірованы на барацьбу з безрабоцьцем. З гэтай мэтай маецца нават паўстаць спэцыяльнае міністэрства.“

Для кожнага вядома, што барацьба з безрабоцьцем можа вясьціся толькі самымі працоўнымі і то не з безрабоцьцем, а зпрычнамі яго. II-гіж Інтэрнацыянал зьвяртаецца да ўраду з просьбай, каб апошні знайшоў засабы для зьнішчэньня безрабоцьця, або, нават, дакляруе стварыць „спэцыяльнае міністэрства“.

Ясна, што гутаркі такія — гэта нішто іншае, як аблудныя фразы для затушаваньня сутнасьці справы, для зацямненьня прычынаў безрабоцьця. Яны маюць на мэце паказаць працоўным, што ўрад, або нейкае там „спэцыяльнае міністэрства“ зможа вылячыць гэтую хваробу.

Яны хочуць паказаць, што капіталізм можа істнаваць, бяз істнаваньня адначасна безрабоцьця, бяз істнаваньня гэтай 15-ці мільённай арміі, якая павялічваецца з кожным днём.

Як аргумэнт для доказу гэтага яны прыводзяць тое, што ў Савецкім Саюзе, дзе ўлада знаходзіцца ў руках рабочых і сялян, таксама істнуе безрабоцьце.

На першы погляд здавалася-б зусім слушная увага. І шмат хто гэтаму верыць.

Але ў гэтым і сэнс, што ўгода ці то сьвядома, ці несьвядома заўсёды любіць „слана не заўважыць“. Заўсёды стараецца зрабіць на карысьць сваім апякуном.

Запраўды ў Савецкім Саюзе безрабоцьце істнуе.

Якая-ж розьніца паміж безрабоцьце у капіталістычных краёх і безрабоцьцем у Савецкім Саюзе? А розьніца тая, што, як мы вышэй сказалі, пры капіталізьме безрабоцьце — гэта хранічная хвароба, гэта натуральнае зьявішча і, як падае статыстыка, лік арміі безработных стала павялічваецца і павялічваецца, палажэньне іх пагаршаецца. У Савецкім Саюзе безрабоцьце — гэта спадчына капіталізму. Хвароба гэта зьнікае, лік безработных з кожным днём памяншаецца, палажэньне іх забясьпечана самымі-ж рабочымі і сялянамі.

Там зьнішчаны запраўдныя прычыны і знойдзены лекі безрабоцьця.

Вось чаго ня хочуць, а часам і ня могуць даглядзець лідары II Інтэрнацыяналу. Вось чаму нашы сельсаюзьнікі і хадэкі, як вады ў рот набраўшы маўчаць аб перапаўненьні нашай вёскі безрабоцьцем.

Значыць, тая „барацьба“, якую вядзе угода з безрабоцьцем у капіталістычных краёх, а сама ў кожным лепшым выпадку падтрымлівае прычыны яго—гэта звычайныя манэўры для адцягненьня масаў ад запраўднае барацьбы. Дзеля гэтага барацьба з безрабоцьцем набірае характару барацьбы з яго прычынамі і з угодаю.

Адзіным магутным чыньнікам, адзіным засабам, які зможа зьнішчыць безрабоцьце — гэта арганізацыя безработных камітэтаў, узмацненьне клясавых профсаюзаў і саюз работнікаў і сялян.

# Новыя хмары на Далёкім Усходзе.

Яшчэ ня сьцерлася памя[illegible] рокіх мас усяго сьвету аб т[illegible] дзеях, якія у прошлыя гады ад[illegible] валіся ў Кітаі.

Гледзячы на тыя магутныя баі, здавалася, што вось-вось Кітай адбудуе сваю незалежнасьць, **незалежнасьць для працоўных мас**.

Але гэтак ня сталася. Здабыта, праўда, незалежнасьць, але не шырокім масам, а незалежнасьць кітайскай буржуазіі.

Чаму так сталася, — ня цяжка зразумець, калі прыгледзімся да тых дарог па якіх ішла вызваленчая барацьба. Адна дарога — гэта дарога кітайскай буржуазіі, якая была прыгнечана замежным імпэрыялізмам і якая хацела больш свабоднага свайго разьвіцьця, самастойнай канкурэнцыі, што магчыма пры стварэньні незалежнасьці Кітаю. Другая дарога—шырокіх мас, палажэньне якіх было давэдзена да крайнасьці і папіхала да нечага іншага, лепшага.

У першую фазу рэвалюцыйнага руху ў Кітаі здавалася, што будзе барацьба пад супольным лёзунгам: „барацьба за незалежнасьць“.

Але далейшы ход выпадкаў шпарка разьбіў гэтыя думкі. Даведзеныя немагчымым сацыяльным палажэньнем шырокія масы Кітаю запраўды кінуліся ў барацьбу за незалежнасьць, але за незалежнасьць шырокіх мас якая прынясе ім сацыяльную незалежнасьць. Гэты ўздым ня толькі пагражаў заграінічным імпэрыялістам, але і сваім ўласным „саюзьнікам“—буржуазіі, дарога якой аддалялася ўсё больш у працілеглы бок. Пад напорам мас кіраўнічая партыя Куомітанг разьбіваецца на два лягеры.

Бязумоўна, каб забясьпечыць сваё істнаваньне, сваю „незалежнасьць“ буржуазіі трэба было ахаладзіць „запал народу“ (шырокіх мас), хоць для гэтага трэба падаць руку свайму былому праціўніку — замежнаму імпэрыялізму. На чале кітайскай буржуазіі становіцца Чанг-Кай-Шэк.

Супольнымі сіламі было прытушана „народнае полымя“. Чанг-Кай-Шэк абвяшчае сябе дыктатарам і заганяе пад зямлю рух шырокіх мас.

Праз пэўны час абвяшчаецца „народная“ ўлада і „незалежнасьць“ здабыта.

І вось, нядаўна 2 месяцы таму назад, Чанг-Кай-Шэк так сказаў:

„Я рэвалюцыйны (?.) павадыр народу (?.). Вы можаце верыць усяму таму, што я вам скажу. Да прошлага павароту няма. Эпоха ўладаньня краем паасобнымі гэнэраламі пахавана назаўсёды. У краі аб'ядналым цяпер — адзіная цэнтральная ўлада. Чаму?—таму, што яна створана воляй народу (?.), народам (?.) падтрымліваецца, і народу (?.) служыць, як гэта запавядаў нам вялікі бацька кітайскай рэвалюцыі Сун-Ян-Сэн. Ніякая заява новага мілітарыстычнага дыктатара больш немагчыма, бо народ не падтрымае яго. Усе весткі у заграінічнай прэсе аб аддзяленьні новага гэнэрала — згары фальшывыя: гэта немагчыма абсалютна. Проці народнага (?.) ураду ня выступіць народ.“

Такім чынам (здаецца) ўсё ўжо кончана ў Кітаі. Аднак, толькі прыдушана барацьба шырнкіх мас, але не задушана — яна вядзецца далей, ўсё больш узмацняючыся, хоць весткі аб ёй даходзяць вельмі рэдка і яны скрываюцца буржуазіяй.

У апошнія-ж часы газэты падалі весткі, якія зацікавілі ізноў-жа увесь сьвет. Але ў іх відаць ужо штось іншае.

Гэтак былі пушчаны весткі, што нібы СССР падтрымлівае гэнэрала Фэнга. Ня доўга чакаючы, кітайсткая „народная“ улада 27 траўня зрабіла ў памешканьні гэнэральнага консульства СССР рэвізію. Пасьля рэвізіі забрана дакумэнты і кнігі, а таксама арыштавана 40 савецкіх грамадзян.

У адказ на рэвізію ў Савецкім консульстве, СССР пазбавіла экстэрыторыяльнасьці кітайскае пасольства і консулят у СССР.

У ноце сваёй СССР падкрэсьлівае нарушэньне права экстэрыторыяльнасьці.

Паводле апошніх вестак рэві-

# З жыцьця Радавае Беларусі.

### Гаспадарчае жыцьцё.

**3 новыя фасфарытныя заводы.** У першай палавіне чэрвеня г. г. пушчаны ў ход Мсьціслаўскі фасфарытны млын, першае ў Беларусі прадпрыемства па вырабе ўгнойваючых фасфарытных тукаў. Адначасова пачынаецца будаўніцтва вялікага Крычаўскага фасфарытнага заводу і невялікага Клімавіцкага фасфарытнага млыну.

Усе паказаныя прадпрыемствы грунтуюцца на фасфарытнай рудзе, сотні мільёнаў пудоў якое ёсьць у раёне Мсьціслаўлю, Крычава і Клімавіч. Іх прадукцыя ў значнай меры вырашыць патрэбнасьць у штучным угнаеньні сельскай гаспадаркі Беларусі.

У бліжэйшыя 2-3 гады можна давесьці прадукцыю гэтых прадпрыемстваў да 1,5 — 2 мільёнаў пудоў мукі ў год, а ў наступным магчыма больш.

**Калектыўныя гаспадаркі на балоце.** Палявыя работы ў балотным савецкім гаспадарстве імя „10-цігодзьдзя БССР“ (Бабрайшчына) разгорнуты. Сёлета, згодна пляну, павінна быць засеяна 300 гэктараў ральлі і ўзьнята 2.200 гэктараў балотнай цаліны. На 1-га чэрвеня засеяна 122 гэктары і падрыхтаваны да пасеву 41 гэктар цэлага балота. Работа вядзецца выключна трактарамі. Коні там не змаглі-б працаваць. На балоце працуе калёна ў 15 трактараў. Частка трактараў перайшла на дзьве зьмены.

У савецкай гаспадарцы канчаецца пабудовай вялікі дом на 10—12 кватэр, арганізавана сталоўка, ёсьць кіно-перасоўка.

Сёлета на Мар'інскім балоце арганізуюцца першыя на Беларусі калектыўныя гаспадаркі на балоце — яўрэйскія і здэмабілізаваных чырвонаармейцаў. Кожнай калектыўнай гаспадарцы адводзіцца па 400 гэктараў плошчы. Частка членаў яўрэйскай калектыўнай гаспадаркі ўжо знаходзіцца на месцы і праводзіць раскарчоўку і расчыстку вучастку.

**Узбуйненьне калектыўных гаспадарак.** У апошні час у Мазырскай акрузе, побач з арганізацыяй новых калектыўных гаспадарак, праводзіцца ўзбуйненьне ўжо істнуючых калектыўных гаспадарак. Так, у Каралінскім раёне да камуны „Праца“ далучылася Дзьвіжкаўская калектыўная гаспадарка. У Юравіцкім раёне да калектыўнай гаспадаркі Вялікія Вадовічы далучылася калектыўная гаспадарка Малыя Вадовічы і г.д.

— Беларускі шкляны трэст узмацніў гандлёвую сувязь з Пэрсіяй, Аўганістанам і Турцыяй, дзе беларускае шкло карыстаецца вялікім пасьпехам. У гэтыя краіны сёлета ўжо адпраўлена розных тавараў на суму каля 230 тысяч. рубл. У бліжэйшы час адпраўляецца яшчэ партыя прадукцыі Беларускага шклянога трэсту на суму каля 70 тычяч руб.

За апошні час беларускім шклом зацікавіліся ангельскія фірмы. Гэтымі днямі Беларускі шкляны трэст адпраўляе праз Аркос у Лёндан першую скрынку ўзораў рознай прадукцыі беларускіх гут. Акрамя Англіі прадукцыю мяркуецца рэалізаваць і ў яе калёніях.

**Электрафікацыя мястэчак БССР.** Белсельбанк адпусьціў 85 тысяч рубл. на электрафікацыю наступных мястэчак: Капыль і Плешчаніцы (Меншчына), Бешанковічы (Віцебская акруга), Чарэн (Аршанская акруга), Бялынічы (Магілёў), Тураў (Мазыршчына) і Чырвоная Слабада (Бабруйшчына). Работы па электрафікацы мястэчак ўжо распачаты.

— Беларускі сялянскі банк адпусьціў 15 тысяч руб. на крэдытаваньне індывідуалаў-забудоўшчыкаў у г. Барысаве і 3 тысячы р.— у мястэчку Высячаны (Віцебшчына). Крэдытавацца будуць пераважна рабочыя і служачыя.

— Беларускі сялянскі банк перавёў акругам БССР 106 тысяч рублёў на пабудову новых малочных заводаў. Распачнуць будаваць гэтыя заводы ў бягучым сэзоне.

### Культурнае жіцьцё.

**— Склікаецца ўсебеларускі зьезд латышоў.** На апошнім паседжаньні Цэнтральнай нацыянальнай камісіі т. Думо дакладваў аб рабоце сярод латышоў, якія жывуць ў Беларусі. 81 прац. латыскага насельніцтва каапэраваны. У

зія не дала ніякага матэр'ялу для абвінавачваньня консульства СССР у тым, што яно вядзе камуністычную прапаганду і падтрымлівае варожых кітайскаму ўраду гэнералаў.

Але на гэтым аднак ня скончылася. Бо вось агэнцыя Рэйтэра падала сэнсацыйную вестку, якую з нябывалым захопленьнем перахапілі буржуазыйныя газэты, што ў адказ на рэвізію ў Савецкім Консульстве, савецкія войскі увайшлі ў Манголію і пасунуліся на 100 міль у глыбіню краю, што „палажэньне на кітайска-савецкай граніцы вельмі грознае“ і што магчыма „інтэрвэнцыя Японіі“ і г. д..

Няпраўдападобнасьць гэтай сэнсацыі была хутка выкрыта.

„Gazeta Warszawska“ з дня 17 чэрвеня 1929 г. зьмясьціла запярэчаньне савецкай прэсы дзе чытаем:

„ПАТ. (Тасс). „Ізвестія“ пішуць, што весткі, даносячыя аб збройным заняцьці савецкімі вайскамі Манголіі і нават Манджурыі паходзяць з тых самых крыніц, якія падтрымоўлівалі зласьлівыя выдумкі ўладаў Харбіну, датычныя „канфэрэнцыі трэцяга інтэрнацыяналу“, а таксама адкрыцьця ў часе вядзэньня ў савецкім консульстве рэвізіі, кампрамітуючых дакумэнтаў.

„Савецкая газэта зазначае, што ўсе гэтыя інфармацыі ня маюць ніводнага слова праўды, аўтары-ж іх маюць адну мэту, гэта стварэньне магчыма найбольшых труднасьцяў ува ўзаемных адносінах Кітаю з СССР а таксама скампрамітаваньне палітыкі савецкага ўраду на Далёкім Усходзе. Думаем аднак — канчаюць „Ізвестія“, што зласьлівыя спробы, а таксама распашырэньне падобнай маны можа мець толькі адзін вынік — раскрываць твар тых, хто займаецца такімі рэчамі.“

Справа, як бачым зусім ясная.

Яшчэ пазьней прынесьлі тэлеграмы, што барацьба паміж гэнэралам Фэнграм і Чан-Кай-Шэкам завастраецца і што гэнэрал Фэнг 21.VI.29 г. абвясьціў новую паўночна-кітайскую рэспубліку і мае замер утварыць заюз з савецкім (!!) урадам, проці нанкінскага.

Далей газэты ня спыняюцца і пішуць, што гэнэрал Фэнг прадаўся Амэрыцы за некалькі мільярдаў і выехаў у Маскву, скуль паедзе на Захад Эўропы.

У апошнія дні гэтыя газэты падалі, што гэта сталася напэўна.

Ці так яно, ці не, але адно напэўна, што замежныя імпэрыялісты нешта рыхтуюць у Кітаі, як відаць, хочучы зашахаваць СССР пасьля сваей паражкі там. Над Кітаем ізноў навісаюць новыя хмары.

Але кітайскія працоўныя масы, ня гледзячы на ўсё гэта вядуць сваю барацьбу, якая адзіна будзе мець рашаючае значэньне ў далейшым ходзе падзеяў у Кітаі.

К.

## Забастоўка цагельных работнікаў у Кракаве.

Дня 21 чэрвеня г. г. выбухла забастоўка ў 7 цагельнях у Кракаве з 1.200 работнікамі. Праз некалькі дзён да іх прылучыліся іншыя цагельні.

Работнікі дамагаюцца 8-мі гадзіннага дня працы, зьнясеньня акордаў і іншых палепшаньняў быту.

## 1443 асобы штодзенна эмігруе з Польшчы.

У сакавіку месяцы г. г. вызьмігравала з Польшчы агулам 34.290 асобаў, у красавіку ўжо 56.012 асоб. Вярнулася ў Польшчу ў сакавіку 2.449, у красавіку 1.226.

Што прымушае выяжджаць па 1443 асобы ў дзень з Польшчы за граніцу—хай самы чытачы дадумаюцца.

### Ня хочуць даваць падаткаў?

Горадзенскі „Дзеньнік Крэсовы“ з дня 26 чэрвеня падае:

„Грознае выступленьне сялян у адносінах да падатковых экзэкутараў“.

„Наш торуньскі карэспандэнт тэлеграфуе: Падаткавыя экзэкутары з Чарнкова, Лавішэўскі і Лазарэвіч, прыбыўшы ў вёску Веленъ, пачалі сэквэстраваць шэраг прадметаў у тутэйшых гаспадароў за падаткавыя залегласьці.

У часе, калі хацелі ад'ехаць з забранымі рэчамі абступіў іх натоўп сялян, якія дамагаліся адданьня забраных рэчаў.

У сувязі з гэтым настроем натоўпу, экзэкутары прымушаны былі лічыцца з гэтым жаданьнем.

Пакліканая паліцыя звольніла ўрэшце падаткавых экзэкутараў, акружаных жыхарамі вёскі“.

## Сутычка паліцыі з камуністамі, якія атакавалі членаў Туру у Варшаве.

„Il. Kur. Codz.“ 25.VI. піша: „Учора адбываліся ў Варшаве урачыстасьць Т. У. Р-а (Т-ва Работніцкага Унівэрсытэту, пляцоўкі пэпэсаў—рэд.)

У часе, калі сябры Туру ішлі, дэманструючы праз горад, да спартовага пляцу пры вуліцы Акаповай у паход умяшаліся групы камуністычнай моладзі, выкрыкваючы варожыя супроць ППС лёзунгі і прабуючы разьбіць паход.

Прыбыўшы на мейсца аддзелы рэзэрвы паліцыі, аддзялілі ад сацыялістычнай дэманстрацыі камуністаў, пасьля чаго іх разьбілі. Камуністы другі раз прабавалі разьбіць сацыялістычную дэманстрацыю на рагу вуліцы Дзельнай, аднак і ў гэтым выпадку паліцыя здолела іх разьбіць.

Таксама трэцьцяя проба разьбіцьця сацыялістычнай дэманстрацыі не ўдалася, дзякуючы энэргічнаму выступленьню паліцыі.“

# Весткі з заграніцы.

## Нямецкі парлямэнт пастанавіў даць другую рату на браненосец „А“.

Даказам таго, як сацыялістычны ўрад Мюлера прыгатаўляецца да вайны, ёсьць справа збраеньняў Нямеччыны, аб якіх у апошні час вельмі часта пачалі гутарыць.

Але найбольш цікава гэта справа з будоваю браненосца „А“, якая выклікала цэлую буру з боку работніцкай лявіцы, што прычынілася да невялічкага ўстрыманьня пастановы аб другой раце платы на будову гэтага браненосца. Як падаюць газэты, справа гэта дабягае канца.

На паседжаньні Рэйхстагу 27.VI 29 г. ухвалена 240 галасамі проці 172 сацыялістаў (?) і камуністаў другую рату на будову браненосца „А“. 9 паслоў устрымалася ад галасаваньня. Сацыял-дэмакратычныя міністры за выняткам канцлера Мюлера, які з прычыны хваробы ня быў у Рэйхстагу, галасавалі за рату.

### 1 жніўня ў СССР.

„П. А. Т.“ паведамляе, што „дзень 1-га жніўня, г. зв. „чырвоны дзень“ мае быць прысьвечаны дэманстрацыям проці імпэрыялізму і ваенным падгатоўкам ува ўсіх дзяржавах, а таксама абароне Савецкага Саюзу, сьвяткаваны урачыста будзе ў Савецкім Саюзе. Фабрыкі і канцэляры спыняць працу“.

# Весткі у тры радкі.

— У **Штокгольме** выбух пажар, які прынёс шкоды на 11 мільёнаў злотых.

— **„Стшелец“ піша**, што арганізацыя іх зьменшылася з 350.000 чалавек — да 100.000 „**Samopomoc Cłopska**“ піша, што іх і так зашмат на вёсцы.

— **Забастоўка ў Паб'яніцах 4 000 работнікаў** прадаўжаецца. Кіруюць ею, як падае „Работнік“ камуністы.

— **Сьмерць 4 гарнякоў.** У Шапяніцах зямлёй завалены 4 работнікі-гарнякі, з прычыны падземнага дрыжэньня.

—**Камуністычны працэс.** 26-га чэрвеня закончыўся ў Белай (пад Кракавам) працес 9-х камуністаў. Усе, за выняткам аднаго, засуджа-

# Што чутно у Польшы.

## Працэс б. міністра Чэховіча.

Нядаўна адбыўся працэс б. міністра скарбу Чэховіча перад Трыбуналам Стану.

Пасьля некалькі дзённай расправы Трыбунал Стану завесіў справу да часумэрытарычнай пастановы Сойму аб дадатковых крэдытах. Такім чынам „партыйны футбол“, які піша „Express Wilenski“ які разыграўся паміж „апазыцыяй“ і урадам вынікам кончыўся: 0:0 (нуль на нуль), бо „апазыцыя“ ня выйграла, таму, што Чэховіч не засуджаны, а ўрад таксама ня выйграў, бо Чэховіч не апраўданы. Выхад знойдзены і справа ў... кошыку.

Да характэрных мамэнтаў з гэтага працэсу вернемся ў наступным нумары „Сьвету.“

### Рэдукцыя працы ў Лодзі.

„Газэта Варшаўска“ (20.VI.) падае: Статыстыка працы ў баваўняным промысьле ў Лодзі за апошні тыдзень сьцьвярджае:

У 60 прадпрыемствах, ахопленых статыстыкай, было працуючых толькі 18.700, пяць дзён у тыдні — 5.205 раб., чатыры дні — 26.530 раб., тры дні — 27.285 урэшце 2 дні — 6.730 работнікаў.

Паміма гэтага 2.900 работнікаў было ў водпуску.

Параўнаньне гэта само сабой не дае яснага прадстаўленьня аграніченяня прадукцыі ў баваўняным прамысьле. Толькі пералічэньне поўных дзён фактычнай і нармальнай працы паданых вышэй 77.380 работнікаў і даданьне да гэтага ліку ўрлепаваных, якія, напэўна, не заступлены новымі, атрымліваем 481.850 дзён працы гэтых работнікаў пры нармальнай працы — 6 дзён. Але дзеля таго, што работнікі гэтыя працавалі фактычна толькі 299.660 дзён, значыць маем у адным тыдні недабор — 182.220 дзён працы страчаных з прычыны аграніченьня прадукцыі, ці каля 40%.

Вылічэньне гэтае не абыймае непрацуючых зусім і ня дзеючых прадпрыемстваў. З гэтага вынікае, што рэдукцыя працы і работніцкіх заработкаў у лодзкай прамысловасьці выносіць ня менш як 50 проц.“.

Беларусі ёсьць 6 латыскіх калектыўных гаспадарак; пры Беларускай Акадэміі Навук утворана латыская камісія; працуе 21 латыская школа.

Нацыянальная камісія пастанавіла склікаць ў верасьні ўсебеларускі зьезд латышоў. Пастанова нацыянальнае камісіі перадана на зацьвярджэньне ў Цэнтральны Выканаўчы Камітэт БССР.

— Якуб Колас рыхтуе да друку трэці том збору твораў, у які ўвойдуць усе дробныя апавяданьні.

— Оркестра народных інструмантаў (цымбалы, леры, жалейкі) заснавалася аматарскім спосабам па ініцыятыве кіраўніка гэтае оркестры Захара. Рэпэртуар оркестры складаецца выключна з беларускіх народных песень.

— У канцы лютага адбылося пасяджэньне Акадэмічнай рады Беларускай Акадэміі Навук супольна з прадстайнікамі Вышэйшага Савету Народнае Гаспадаркі, Дзяржпляну і Наркамзему па пытаньню арганізацыі інстытуту прамысловасьці, задачай якога будзе ўсебаковае вывучэньне прамысловасьці Беларусі. Інстытут будзе існаваць пры Беларускай Акадэміі Навук на аўтаномных пачатках, кіраваць ім будзе Вышэйшы Савет Народнае Гаспадаркі.

Акадэмічная рада ўхваліла арганізаваць Інстытут прамысловасьці і даручыла Прэзыдыуму Беларускае Акадэміі Навук апрацаваць праэкт Інстытуту і падаць яго на зацьвярджаньне Савету Народных Камісараў.

Водлуг праэкту пабудова Інстытуту павінна распачацца сёлета. На будаўніцтва яго у гэтым годзе павінна быць асыгнавана 300.000 руб...

Інстытут прамысловацьпі мае складацца з 3-х адзелаў: хэміка-тэхнічнага з цэлым шэрагам лябараторый; энэргэтычнага з лябараторыямі: цёпласілавой, гідра-дынамічнай і электрытэхнічнай; аддзелу будаўнічых матэр'ялаў і арганічнай прамысловасьці.

— Галоўнавука канчаткова распрацавала плян навуковых экспэдыцый і дасьледаваньняў на 1929 год. Усяго мяркуецца арганізаваць 80 экспэдыцый і навуковых паездак у розныя раёны СССР.

—Гідралёгічны інстытут пасылае экспэдыцыі ў Ахоцкае і Японскае мора для акіянаграфічных дасьледаваньняў па праграме, распрацаванай Інстытутам супольна з Акадэміяй Навук. Мурманская біолёгічная станцыя будзе весьці работы па вывучэньні паўночных мораў па ўзгодненай міжнароднай праграме. Для гэтай мэты на поўнач, да кромкі ільдоў, будзе паслана толькі што набытае ў Норвэгіі і нанова абсталяванае судна „Мікалай Кніповіч.“ Плаўморнін арганізуе навукова-прамысловыя і акіяна-графічныя экспэдыцыі ў Белае і Барэнцава мора, а таксама на Мурманскае ўзьбярэжжа.

У зьвязку з проблемай узьняцьця ўраджайнасьці вялікія экспэдыцыі накіроўваюцца Дзяржаўным інстытутам па вывучэньню засушлівых вобласьцяў у Астраханскую і Сталінградзкую губэрні для дасьледаваньня глебы і культуры розных расьлін. Інстытут мінэралёгіі пасылае экспэдыцыі ў Прыбайкальле і Туркестан для абсьледаваньня месцанараджэньняў сьлюды і жанадзія. Акрамя таго, навуковыя работнікі гэтага інстытуту прымуць удзел у экспэдыцыі, якая арганізоўваецца трэстам „Ведкие элементы“ у Забайкальлі для дасьледваньня вольфрамавых месцанараджэньняў.

—Намечаны таксама цэлы рад экспэдыцый па вывучэньні народнасьцяў Алтаю, зыран, асяцін, бурата-манголаў, інгулоў ды інш... Архэолэгічныя інстытуты пасылаюць экспэдыцыі на Паўночны Каўказ, ў Ольвію, Судак і на Таманскую паўвыспу. Навуковыя работнікі інстытуту гэографіі будуць праводзіць далей гэолегічнае дасьледаваньне ўсходніх Саян.

Усяго на арганізацыю навуковых экспэдыцый адпускаецца ў бягучым годзе 135.000 руб...

*Сяляне і работнікі*
*чытайце і пашырайце газэту*
*„СЬВЕТ“*

слы з Беларускага Сялянска-Работніцкага Клюбу!“ Распачаўшы прамову, Валынец у першую чаргу выкрываў запраўдную сутнасьць угоды, а разам з тым і „Сялянскую партыю“, да якое належыць Савіцкі.

Прысутны тут камэндант пастарунку, пяць паліцыянтаў і прадстаўнік ад Староства пачалі разганяць мітынг, арыштоўваючы некалькі асобаў.

**— Новыя кніжкі.** На днях выйдзе з друку „Зборнік беларускіх народных песень для мяшанага хору“. Сабраў і выдае гр. Р. Шырма. Музыкальная апрацоўка для хору кампазытараў — Анцава (БССР), Галкоўскага, Грэчанінава (БССР,) і Уладзімірскага. Таксама ў хуткім часе маецца выйсьці з друку кніжка Энгельса „Разьвіцьцё сацыялізму ад утопіі да навукі“. Пераклад з расейскага.

### Сэкрэтарыяты на мясцох.

Нас паведамляюць, што адрэс Сэкрэтарыяту Б.С.-Р. П. Клюбу ў Паставах —вул. Зарэчная № 3,
у Маладэчне—вул. Міцкевіча № 10
у Глыбокім—вул. Варшаўская № 2

# Па правінцы.

## Ад рэдакцыі.

Задача газэты наагул — гэта даваць інфармацыі чытачом, рабіць пэўныя вывады, надаваць лінію, па якой павінна ісьці жыцьцё, задача-ж нашае газэты—даваць інфармацыі шырокім масам, рабіць вывады, патрэбныя масам, даваць лінію, па якой павінны ісьці масавы рух работнікаў і сялян.

Маючы такую аграмадную задачу, мусім акрэсьліць, у якіх адносінах газэта будзе да шырокіх мас.

Перш за ўсё, мы ня хочам, каб у нашую газэту пісалі ня толькі некалькі фаховых людзей, спэцыяльна на гэта пастаўленых, як гэта робіцца ўва ўсіх буржуазных газэтах, але хочам, каб нам пісалі нашыя чытачы-работнікі і сяляне, хочам, каб кожны чытач улажыў нешта ў нашую газэту, пачуў неразлучную сваю супольнасьць з ёю, супольнасьць працы. Хочам, каб наша газэта была выражэньнем жыцьця калектыву сялянска-работніцкіх чытачоў. Дзеля гэтага кожны чытач мусіць нешта напісаць, ці то карэспандэнцыю, ці артыкул, **ці крытыку нашай газэты**: што ёй не хапае, што добра. Ня трэба баяцца ці зьнеахвочвацца, што пісем, дзеля шмат якіх прычын ня будзе надрукавана, але гэтыя пісьмы вельмі важныя для рэдакцыі, а гэта ўжо — карысьць.

Каб лягчэй было выпаўніць вышэй успомненую задачу, няхай чытачы гуртуюцца ў кружкі карэспандэнтаў, дзе будуць абгаварваць, што пісаць, як напісаць, якія недахопы мае газэта і г. д.

Але мала гэтага. Трэба, каб нашу газэту чыталі масы. Тут паўстае задача — пашырыць „Сьвет“ на кожную вёску. Кожны бяззямельны, серадняк, кожны батрак павінен ведаць аб нашай газэце. Але ў гэтым ёсьць адна перашкода: ня кожны ўмее чытаць. Тады гуртуйцеся ў кружкі чытачоў, няхай адзін чытае, а ўсе слухаюць, супольна тлумачачы тое, аб чым напісана.

Каб з газэтай знаёміліся ўсё новыя чытачы, прысылайце адрасы тых, хто хацеў-бы мець пробны нумар „Сьвету“— рэдакцыя ім вышле некалькі нумараў.

Падавайце нашу газэту на фэстах, кірмашах, ды іншых зборышчах.

Вось што перад намі стаіць і што мы павінны выпаўніць.

### Як забясьпечваюць рабочых Касы Хворых.

У м. Відзах, Браслаўскага павету год ужо, як існуе Каса Хворых, якая, як усім ведама, павінна памагаць работнікам у выпадку хваробы, ці калецтва. Аднаго разу прыйшоў да гэтай „Касы Хворых“ адзін работнік беларус, які працуе на шосэйнай дарозе Відзы-Свенцяны, з разьбітым пальцам і зьвярнуўся да доктара ў Касе Хворых, каб ён даў яму помач. Доктар, паглядзеўшы на палец, сказаў пайсьці да хаты і ўлажыць палец да гарачай вады і чакаць пакуль загоіцца, а аб нейкай помачы й гутаркі няма. Замест лякарства, хоць напр. ёду, — гарачая вада і сядзі галодны, трымаючы палеп у гарачай вадзе аж пакуль не засьпяваюць „święto odpocznienia“,—гэта табе будзе за сяброўскія складкі.

**Брукоўшчык.**

### „Кулко рольнічэ“

(в. Залесьсе, Маладэчанскі павет).

Ужо год, як заснавалі ў нас курчы гэтае „Кулко Рольнічэ,“ заманваючы да сябе сялян рознымі абяцанкамі. Але нас не ашукаеш, кожны ведае, што панская ласка толькі да парогу.

Аднаго разу на сходзе сяляне дамагаліся, каб ім тлумачылі па беларуску. Тады аграном пачаў тлумачыць, адказваючы так, што каб былі тут бальшавікі, дык гаварылі-б вы па свайму, а так то мусіцэ гаварыць па нашаму і абавязкава трэба навучыцца папольску.

**Вока.**

### З нашага жыцьця.

(в. Вароніна, Грыцавіцкае воласьці, Нясьвіжскага певету).

Хто ня ведае, як цяжка жывецца нашаму сярмяжнаму сялянству? Мала таго, што мы плацім усялякія налогі. Цяпер забаранілі ў лясох абшарніка Радзівіла пасьвіць скацінку, якая мусіць здыхаць з голаду. Часам, калі хто адважыцца загнаць у панскае, дык стражнікі ловяць і падаюць у суд.

Аднойчы неяк вясною 1928 г. стражнікам не ўдалося заняць сялянскага быдла. Тады яны „до помоцы“ паклікалі войска...

Сяляне, ня ведаючы куды кінуцца затэлефанавалі да сельсаюзьніцкага пасла—Ярэміча.

Прыехаў Ярэма, пабалакаў крыху, ды, нічога не парадзіўшы, паехаў. Вось, як робяць „сялянскія“ паслы.

**Я. Смольны.**

### Будова дарог.

(вёска Харашкі, Дварэцкае воласьці, Наваградзкага павету).

Праз нашу вёску праходзіць трактавы шлях Вільня-Баранавічы. Шлях, як ведама дзяржаўны. Драговыя падаткі плацім і мы-жа самі таксама брукуем вуліцу ў вёсцы на свой кошт бяз ніякае дапамогі, што ляжыцца цяжарам на нашу вёску, гаспадарчы стан якое вельмі цяжкі і без таго, ў сувязі з купляй ад 27 і 28 году каля 200 гэктараў зямлі ад абшарніка—бо дзе-ж яе возьмеш, ведама, яе не даюць, а жыць трэба. І вось ня гледзячы на гэткі стан, кажуць работу распачаць безадкладна, як безадкладна пашлюць да пратэсту вэксалі пазычковай касы „Стэфчыка,“ а таксама і прыватныя асобы, ў якіх ўся вёска сядзіць у даўгох, да апошняга каня.

Калі-ж хацелі вытлумачыць прычыны нашага цяжару, недазваляючыя прыступіць да гэтай работы без дапамогі і асабліва ў гэтым годзе, то войт пагражае паліцыяй за бунт(?) так што змушаны былі пасылаць дэлегатаў да Старасты.

Апошні сказаў, што справа не яго, бо ня ён прыказаў, а пастанавіла Гмінная Рада, а ён толькі мусіць стасавацца да гэтае пастановы, каб яе выканаць. Урэшце вынік дэлегацыі наступны: П. Староста парадзіў пісаць просьбу да Гміннае Рады, каб яна прызнала нашыя прычыны, тады адложыць. А дзе-ж яна прызнае, калі да яе розуму не дайшло, нават, тое што цяпер у гэтым часе не магчыма дастаць у патрэбнай колькасьці каменя, які знаходзіцца пад збожжам.

Вось і манееш. Гмінная рада пастанаўляе не рахуючыся з палажэньнем сваіх выбранцаў.

**Дуброва.**

### Пратаколы.

(вёска Драпаўцы, Старавейскае воласьці, Слонімскага павету).

Па просьбе войта пана Анацкага, паліцыя ў працягу аднаго дня, г. зн. 23.III.29 г. зрабіла на Кастуся Плюту пратаколы за тое, што нібы ён ня мае драбіны і крука пры хаце, у той час, калі ён зусім ня мае ўласнай хаты, а іншыя два за тое, што нібы ня быў прывязаны сабака, аднак ёсьць сьведкі, якія ведаюць, што сабака быў прывязаны.

**М. З.**

### Аб культурнай працы.

(в. Харашкі, Дварэцкае воласьці, Наваградзкага павету).

Існуючы ў нас гурток Т.Б.Ш., дзякуючы энэргічнаму высілку паасобных яго сяброў працаваў даволі энэргічна і карысна, але вось пры ладжаньні апошняга спэктакля на Вялікдзень зьяўляецца ў вёску з Наваградка—дзе служыць пры Старацтве як тэхнік—наш інтэлігэнт і адшчапенец сваіх людзей Янка Салаш і пачынае вясьці раскладовую працу ў адносінах да Гуртка сярод нашых сялян, гаворачы на вуліцы, што праца Гуртка толькі зацямняе людзей, а сябры яго гэтым іх абманваюць. Пасьля гэтага; пачаў страшыць, што „главары“ за гэта будуць мець па 6 гадоў, а пазасталыя сябры па 3 гады турмы і г. д.

Аднак гэтай хлусьні панскага падлізы сяляне нашае вёскі ня вераць, а таксама не баяцца і пагрозаў, а толькі сьмяюцца са спробаў гэтага захаду п. Яна, бо-ж бачаць вынік працы Гуртка: у заснаванай бібліятэцы і іншай асьветнай, а не зацямняючай, працы і сьвядома узгадоўваючай, асабліва моладзь.

Толькі старшыня Гуртка, якбы запраўды спалохаўся гэтай хлусьні і за апошнія часы сваей аканчальнай пасыўнасьцю затамаваў энэргічныя высілкі паасобных сяброў у далейшай працы, якія імкнуцца да яе. Але змушаны пасыўнасьцю Старшыні паставіць пытаньне: што будзе далей, як будзе з новым спэктаклям?

Выходзячы з гэтага, сябрам, надалей трэба падумаць ці ня знойдзецца сярод іх здальнейшы, а галоўна больш энэргічны і шчыры да здаровае працы Старшыня?

**Дуброва.**

### Цемра.

(в. Гута, Кругавіцкай гм., Лунінецкага павету).

Наша сялянства яшчэ сьпіць сном цемры. Яно ня цікавіцца ані культурна-асьветнай, ані палітычнай працай, а нават ня ведае, як павінен жыць праўдзівы чалавек. Аб газэце і арганізацыі яно нават і слухаць ня хоча. — „На што нам здалася нейкая там газэта? Лепш купіць папярос ці гарэлкі.“ —Так кажа моладзь. Як гаворыць, так і робіць. У сьвята напіваюцца „удалыя малайцы“ „да сыта да атвала“, лаюцца апошнімі славамі, або ладзяць п‘яныя спорты, а нават і на нажы...

Школы ў нашай вёсцы спрадвеку ня было. Вось аднойчы сяляне задумалі адчыніць пачатковую школу, але, на жаль, не сваю родную — а польскую. Гэтак і зрабілі. Вось, якія парадкі у нашай вёсцы.

Пара, браты, узяцца за арганізацыю, пара навучыцца, шанаваць сябе, пара падняць барацьбу за родную школу!

Пара, браты, даўно пара!

**Сук.**

# З жыцьця самаўрадаў.

### Паседжаньне гміннае рады Вялейскае гміны і павету.

Дня 21 траўня 1929 году было паседжаньне гміннае рады. На парадку дня былі два галаўнейшыя пытаньні: І) ухваліць ганаровае абыватэльства маршалку Пілсудзкаму і 2) Каб гмінная рада асыгнавала грошай на рамонт пастарунку. На паседжаньні быў прысутны камэндант мяйсцовага пастарунку. Дайшоўшы да ўхвалы ганаровага абыватэльства Пілсудзкаму адзін радны выясьніў, „на што нам ухваляць ганаровасьць марш. Пілсудзкаму, ён і так ганаровы і высокі чалавек, многа ён зрабіў для Польшчы. „На галасаваньні „за“ ніхто не падняў рукі. Тады пісар па свайму выясьніў радным, што ганаровасьць трэба ўхваліць, бо ён вёў за нас вайну, бараніў нас і вызваліў. Сказаў, што магістрат ужо таксама ухваліў, дык і нам трэба ухваліць і распачаў паўторнае галасаваньне падыманьнем рук. Пры другім разе радныя паднялі рукі „за“, а раднага, які не падняў рукі пісар загадаў запісаць у пратакол, што ён быў проціў. Далей, радныя ухвалілі на рамонт пастарунку 50 зл. Радны яшчэ раз выясьніў, адкуль паліцыя атрымлівае пэнсію, няхай адтуль атрымае і на патрэбныя рамонты. Камэндант сказаў, што другія гміны ўжо ўхвалілі і вам трэба ўхваліць, так і сталася—ухвалілі.

# Пісьмо ў рэдакцыю.

Грамадзянін Рэдактар!

Як кожны чалавек, які маець на плячох галаву, а не які абрубак дзерава, не залежна ад таго— якое ён думкі аб тым ці іншым, па якім шляху ён ідзець і чаго трымаецца — заўсёды мусіць трымацца толькі праўдзівага боку, калі ідзе аб яго ідэёвасьць, а калі-ж такі толькі перасьледуець зусім “іншыя“ мэты дык ён двойчы ілжэц, які апрача сябе абманваваець другіх, а тыя яшчэ далей.—

Нехачу выстаўляць такіх гучных фразаў як „зёраднік“, „прадаўца“ бо гэта так ўжо будзенна, што нат‘ дзеці імі карыстаюцца— толькі прашу перадаць да ведама беларускага грамадзянства наступныя дакумэнты, пры помачы Вашай часопісі.

Ахонова 27.VI.29 г. З пашанай
**Мік. Вінцукевіч.**

**Беларускаму Гаспадарчаму Зьвязу, Сябрыне „Хатні Промысл“ і пану Я. Станкевічу—**

**Заява.**

Гэтым маю гонар заведаміць вышэй—паданыя Установы і асобу пана Я. Станкевіча, што салідарызуючыся з агульнымі імкненьнямі беларускага працоўнага сялянства, зракаюся становішчаў займаных праз мяне у тых-жа Установах, якто; — выступаю з Цэнтр. Ур. Бел. Гасп. Зьвязу, зракаюся „пасады“ інструктара „Зьвязу“—выступаю з Ураду Сябрыны „Хатні Промысл“ і забіраю свой пай 13 злотых. —

Адносна Я. Станкевіча заяўляю, што на выпадак якога-колечы чыннага нападу пакідаю за сабою права абароны.

А. 27.VI. 29 г. З пашанай
**Мік. Вінцукевіч.**

АД РЕДАКЦЫІ: Зьмяшчаем гэтае пісьмо і паведамленьне ў арыгінале, нічога ад сябе не дадаючы, бо яно само за сябе гаворыць.

# Па галодных раёнах.

### „Дапамога“ галадуючым.

(Дзісьненшчына)

У нашым, як і ў іншым паветах віленскага ваяводзтва, пануе голад. Сяляне зімой яшчэ ня мелі ежы для сябе і корму для жывёлы. Чым далей, тым голад становіцца страшнейшым.

Але вось пачалі хадзіць чуткі аб дапамозе. І дапамога прышла, але атрымалі яе перадусім асаднікі і тая частка сялянства, якая яшчэ мае значныя запасы збожжа і нават прадае яго. Запраўдныя-ж галадуючыя засталіся без дапамогі. Урэшце прыйшла яна і для іх, толькі не беззваротная, а ў форме пазычкі. Галадуючыя атрымліваюць у месяц па 16 кілягр. жыта на сям'ю, якой-бы вялічыні яна ня была, але, каб гэту дапамогу атрымаць, трэба схадзіць па яе разоў 15 у гміну. За гэту мінімальную „дапамогу“ галадуючыя мусяць працаваць бясплатна на дарожных работах. Умовы працы такія: перадусім, праца акардовая, г. зн. дазорца вызначае кожнаму, ці пэўнай групе, пэўную норму, якую трэба кончыць за дзень, а калі гэта ня будзе споўнена, дык будзе залічана толькі паўднёўка і працу трэба канчаць на другі дзень.

Рабочы дзень лічыцца 12 гадзін, заработную плату вылічаюць па 2 злоты ў дзень, час абеду трывае 15 мінут. Месячную „дапамогу“ (16 кілёгр. жыта) цэняць 8 зл. і за яе трэба працаваць 4 дні.

Вядомая рэч, што багацейшыя, якім фактычна дапамога не патрэбная, занёсшы ў „Камітэт помачы“ штук 20-30 яек, атрымліваюць дапамогу большую і ў хутчэйшым часе.

Вось бачыце, якая „дапамога“ нам галадуючым. **С. М.**

(Вёска Дуброва, Ракаўскае гміны Маладэчанскага павету).

10-га траўня г.г. беззямельным і малазямельным в. Дуброва трэба было зьявіцца ў гміну, каб атрымаць „палучкі“ ад „Камітэту помачы“. І што-ж аказалася?. Гмінныя радныя (усе яны скачуць пад дудку войта на шкоду сялянству), як н. п. „вядомы“ радны М. Салавей з в. Дубровы, (аб якім ужо пісалася раней), ня гледзячы на тое, што маюць па паўвалокі і больш зямлі, атрымалі дапамогу. А жыхарка тэй-жа вёскі С. Лонская ня мае хаты (прадала, на лячэньне мужыка, які аднак застаўся калекаю), зямлі мае адну сёмую частку валокі, 4 ядакі ў хаце, атрымала 3 кілязрамы мукі на месяц. Бедная жанчына, бачачы такую насьмешку, змушана была кінуць на землю квіт на „палучку“ і пайсьці дамоў (15 клм.). Янка Таўпека, жыхар тэй-жа вёскі (мае 70 гадоў, хворы на рэўматызм, зямлі мае менш як дзесяціну) не атрымаў нічога. **В.**

### Няма чаго есьці, няма дзе зарабіць...

(Маладэчанскі павет)

Па нашым павеце ўжо ад пачатку вясны пачалі сяляне недаядаць, а тут яшчэ заработкаў цяжка знайсьці. Жанчыны працуюць цэлы дзень за адзін злот, ды й таго заработку ўсім не хапае.

Вось тут і парадзь што хочаш.

Адно толькі шчасьце, што шчаўя ёсьць яшчэ шмат, ня трэба купляць за грошы ды яшчэ можа хто захаваў якую жменю мукі. Так і цягнуць дзень ад дня чакаючы хутчэй жніва.

**Галадуючы.**

### Голад і яго прычыны.

(Вялейская гміна і павет.)

Сялянства нашай гміны церпіць голад. Зусім малая частка такіх, што маюць яшчэ свой хлеб.

Прыкрае здарэньне спаткала з прычыны такога марнага жыцьця, селяніна з вёскі Цінцявіч Пятра Круцько, толькі што прыйшоўшага з войска і зусім „голага“. Гаспадарка за час пабыту яго ў войску зусім зруйнавалася. Зямлі хаця і было, але што з таго: конь прапаў, купіць няма за што, хлеба таксама няма, а зарабіць, хаця і малады хлапец, нідзе ня было магчымасьці. Жыў не адзін, з сям'ёй. Дапамогу далі, але яна толькі лічыцца дапамогай, за яе трэба адрабляць на гмінных работах. Не знайшоўшы ніякага шляху да паляпшэньня жыцьця ён так і пакончыў сваё жыцьцё самагубствам праз павешаньне.

Многа ёсьць такіх сялян, што як устаюць, ня ведаюць, як пражыць дзень. На пражыцьцё нявядама часу толькі і ёсьць які-небудзь фунт мукі. Гэтай мукой засыпаюць ваду — вось ўся ежа сялянства, ня маючага хлеба.

Дапамогу давалі галадуючым у працягу двух месяцаў. Сьпярша давалі грашыма, пасьля гміна выдавала нейкія картачкі, па каторых трэба было ісьці ў места і атрымаць у склепе, якога-небудзь жыда. Добра было ехаць за мукой таму, у каго быў конь, а таму ў каго няма каня—то атрымаў дапамогу на сям'ю пуды 2 і валачы на плячох вёрст 10 і больш.

Сяляне змушаны прадаваць апошнія пні лесу за паўцаны, прадаюць і каровы. Ёсьць такія гаспадары, што збываюць рэчы неабходныя ў гаспадарцы, але ў такім крытычным жыцьці ня лічацца што патрэбная рэч — прадаюць і купляюць сабе фунтамі на пражыцьцё. Як толькі селянін зьявіцца па няшчасьцю на рынак з якім-небудзь дрэвам ці з жывёлай, то гандляры добра ведаюць, што такія прадаўцы ў іхніх руках, бо селянін мусіць прадаць хоць за паўцаны. Гандляры і плацяць ня стольکі, сколькі варта рэч, якую прадае селянін, а сколькі ім надумаецца. Селянін як найхутчэй хоча здабыць грошай і купіць сабе што-небудзь на пражыцьцё, бо інакш яму прыходзіцца паміраць з галаду. З прычыны голаду сяляне вывозяць лес, патрэбны на папраўку будынкаў, бо многія жывуць у небясьпечных хатах, але з гэтым ня лічацца. Усе свае патрэбы, якіх ёсьць многа, пакідаюць так, а за атрыманыя грошы купляюць хлеб.

Раздавала дапамогу „гмінная камісія апекунча“ выбраная гмінай радай. Грошы выдаваў Староста на кожную гміну, пасьля паседжаньня павятовай камісіі, дзе абгаварвалася, якой гміне сколькі вызначыць. Гмінная камісія пастанаўляла даваць дапамогу ў многіх вёсках тым, каторыя маглі-б пражыць сваім даўжэй за тых, каторым нічога не давалі. Многа ёсьць несправядлівасьці ў дапамозе галадуючым, бо атрымалі і тыя, каторыя маглі пражыць без дапамогі, а сапраўды галодныя асталіся і далей галадаць у цяжкіх абставінах, ня ведаючы як самым пражыць, а тут прышла і сяўба, няма насеньня няма і грошай.

Сялянства нашага вокругу лічыць, што голад стаўся не з-за стыхійнага няшчасьця, бо недахоп хлеба быў і да сёлетняга году, але гэта было ня так відавочна і ў меншага ліку сялян,—лічаць за прычыну голаду тое, што большая частка сялян ня можа сабраць з гаспадарак хлеба на пражыцьцё, а зарабіць няма дзе. Сяляне кажуць так: „калі сяляне будуць мець такія гаспадаркі як маюць цяпер — па два, тры і аднаму гэктару зямлі, то далей будзе яшчы больш галадуючых чым у гэтым годзе, бо на такіх вузенькіх палосках, як у нас, няхай сабе і будзе лепшы год, але ўсё роўна мы пераканаы, што хлеба не зьбяром толькі, колькі патрэбна нам на пражыцьцё, бо ўжо даўно не намалачвалі толькі, каб хапала нам да новага“.

# Усячына.

### Зьезд бязбожнікаў у Маскве.

10 чэрвеня г.г. пачаўся зьезд бязбожнікаў у Маскве, на які прыбыло 700 дэлегатаў з усіх пунктаў СССР, а таксама прадстаўнікі атэістычных арганізацыяў Нямеччыны, Аўстрыі, Францыі, Бэльгіі і Швэцыі. Польскіх вольнадумцаў рэпрэзэнтавала дэлегацыя на чале з Домбалем і Сахацкім.

На адкрыцьці нарады прамаўлялі Ярасlаўскі, Бухарын, Луначарскі, Семашка ды інш.

На парадку дзенным, як піша „Gazeta Warszwska“ № 167, знаходзіўся пункт аб спосабах барацьбы з рэлігіяй у каталіцкіх краёх. Рэфэрат аб гэтым прачытаў польскі камуніст Ясенскі, які прадставіў рад прапазыцыяў і праграмаў дзейнасьці атэістаў у каталіцкіх краёх.

„Каталіцкая Прэсавая Агэнцыя“ („Gazeta Warszwska„ № 181) зьмясьціла наступнае аб тых рэзалюцыях, якія былі прыняты на зьезьдзе бязбожнікаў:

„У імя ўраду Бухарын кінуў мотто для нарадаў зьезду: „Разумная барацьба з рэлігійнымі забабонамі,“ падхопленая ўсімі правадырамі антырэлігійнай акцыі з цэлым захопленьнем. Асабліва ясна сфармулаваў гэтае становішча на зьезьдзе ў прывітальнай прамове ад імя Выканкому комінтэрну Фэлікс Кон (прозьвішча само за сябе гаворыць): „Мы павінны вырваць з рук буржуазіі ня толькі меч, але і крыж.“

„Нарады зьезду можна ўзяць у наступныя пастуляты: 1) Барацьба з рэлігіяй ёсьць барацьба палітычная. Дзеля таго барацьба з рэлігіяй павінна стацца адной з першых спраў у савецкай дзяржаве. 2) Дзяржаўнай канечнасьцяй ёсьць прадпрыняцьце раду дэцыдуючых крокаў з мэтай ліквідацыі недаацэнкі контррэвалюцыйнай і шкадлівай ролі рэлігіі, бо хоць даваліся неаднаразовыя дырэктывы партыі, значная частка партыйных радоў стаіць здалёк ад антырэлігійнай барацьбы, не бяручы ў ёй чыннага ўдзелу, 3) Чынная антырэлігійная праца павінна ўважацца за адну з найбольшых задач камуністычнай партыі, дзеля таго адным са сьцягоў члена партыі павінна быць сапраўднае разуменьне ролі рэлігіі ў барацьбе буржуазіі з працоўнай клясай наагул, а ў барацьбе з сацыялістычным ладам і культурнай рэвалюцыяй у СССР у асаблівасьці. 4) Да антырэлігійнай кампаніі канечным ёсьць упрагчы паважных навуковых, літэрацкіх і артыстычных сіл, да гэтага-ж часу нават пралетарскія і камуністычныя пёры не працуюць у антырэлігійнай прэсе. 5) Міністэрства Асьветы (Наркомпрос) мае ня толькі ўтрымаць у Ленінградзкім унівэрстытэце аддзел антырэлігійнай прапаганды і катэдру гісторыі рэлігіі, але таксама утварыць такія катэдры ўва ўсіх іншых вышшых навуковых установах („Вузах“), асабліва ў пэдагагічных.“

# Адказы Рэдакцыі і Адміністрацыі.

**Брукоўшчыку.** Пісьмо і карэспандэнцыю атрымалі. Вы пішаце: „Сёньня адзіны сапраўдны шчасьлівы дзень у маім маладым жыцьці, калі, у працягу доўгага чаканьня на сваю родную газэту-змагарку, неспадзявана атрымаў. Прышоўшы з цяжкай і дарэмнай працы (працую на шасэйнай дарозе па 2 зл. 50 гр. ў дзень) і пабачыўшы „Сьвет“, то ў мяне ў вачох пасьвятлела і раптам пачуў сьвежыя сілы.“ Далей апісываеце. як прынялі „Сьвет“ вашыя таварышы работнікі і работніцы. Тое, што вы напісалі, нам таксама дае сілу, дае вытрываласьць ў выдаваньні „Сьвету“, бо толькі апіраліся і будзем апірацца на рабоча-сялянскіх масах, наша газэта павінна быць газэтай мас, наш „Сьвет“—сьветам мас. Пашырайце нашу газэту, чытайце самі, давайце чытаць другім, **зьбірайце падпіску на газэту**, бо аднаму цяжка заплаціць, ведаючы, што бяз гэтага ня можа выходзіць газэта.

Што да карэспандэнцыіі, якую зьмяшчаем, дык пішэце выразьней і карацей. Апроч таго Вы маеце неправідловы пагляд на Касы Хворых. Мы павінны вясьці барацьбу за рабоча-сялянскае кіраўніцтва Касай Хворых, выбіраючы сялян і рабочых у Раду Касы Хворых і змагацца з рознымі надужываньнямі, а не пакідаць яе. Умасавіць Касы Хорых, зрабіць з яе сапраўды работніцкую ўстанову, праз работніцкае кіраўніцтва—вось нашы адносіны да Касы Хворых.

Адносна Т-ва Помачы Люд. Бел. Земляў, пацярпеўшых ад неўраджаю, Вашую просьбу перадалі ў Галоўны Камітэт Т-ва, адкуль атрымаеце ўсё тое, што прасілі. Чэсьць.

**Я. Чабор.** Вершаў наагул стараемся не друкаваць, апроч таго, адзін з вершаў не падходзіць з цэнзурных умоў. Пішыце карэспандэнцыі, але каротка і ясна, падаючы факты і абгаварваючы справы, якімі найбольш цікавяцца шырокія пласты вёскі і места.

**Дуброва.** Карэспандэнцыі атрымалі. Зьмяшчаем у гэтым нумары. Ці не маглі-б Вы карацей пісаць? Бо нам прыдзецца самім скарочваць, што займае шмат часу. Вы калісьці прабавалі пісаць артыкулы, дык ці ня можаце і цяпер гэта рабіць? Адно аднак запамятайце, што ў нас ёсьць г. зв. цэнзурныя ўмовы.

**Чакаючаму.** З Вашай карэспандэнцыі скарыстаць ня можам. Здарэньне аб якім пішаце патрабуе яснага і дакладнага апісаньня, а Вы гэтага не зрабілі. Вы шырока абгаварваеце факт, аб якім зусім мала напісалі. Абгаварваць так ня трэба, самыя чытачы даведаўшыся аб гэтым факце належна ацэняць яго і знойдуць яго прычыны. Аб тым, што Вы пісалі падаем паводле польскай буржуазыйнай прэсы.



Рэдактар — Выдавец АЛЬЖБЕТА МАЛЬЧЭЎСКАЯ. Беларуская друкарня Ім. Фр. Скарыны, Вільня, Людвісарская